# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

| Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Біскупская вул. 12. Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён. | Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з прэзвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана кожнага нумару 30 м. Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 150 мк., сярод тэксту 200 мк. і на апошняй страніцы 70 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт. |
|---|---|---|

Год I. Вільня. Пятніца, 30-га верасьня 1921 г. № 14.

## Гаварыльня, ці што іншае?

Галоўным заданьнем задуманае быўшым прэзыдэнтам Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў Вільсонам Лігі Народаў было намечана як-бы тое, каб інстытуцыя гэта бяскроўна ліквідавала розныя магчымыя конфлікты паміж народамі, не дапушчаючы іх да вайны.

Апошняя ўсясьветная вайна так катастрофічна разбурыла гаспадарчае жыцьцё сьвету, што далейшая яе магчымасьць зусім зразумела палохае кожнага сумленнага чалавека, кожны самы сільны народ.

Шалёная ваенная калатня давяла амаль не да торбы, як пераможаную, так і перамогшую старану.

Соцыяльныя й палітычныя зьмены ў жыцьці Эўропы для кожнага заметны.

Усё гэта пэўна-ж патрабуе таго, каб надалей былі ўжыты ўсе спосабы вырашаньня міжнародных непаразуменьняў саўсім ня тым шляхам, якім гэта рабілася дасюль.

Аўтор ці аўторы Лігі Народаў напэўна ня думалі йначай, проектуючы заснаваньне гэтай міжнароднай інстытуцыі.

Сягоньня Ліга Народаў ужо істнуе і мае, як відаць, аж надта досіць цяжкае работы.

Аднак работа Лігі не настолькі прадукцыйная, як гэтага трэ' было-б спадзявацца. Выходзіць, што як быццам ваяваць навет лягчэй, чымся мірыць.

Нечага гэткага дзеля поўнае моцы рашэньняў Лігі Народаў не хапае.

А што рашэньні яе застаюцца толькі рашэньнямі, даказальных фактоў дзеля гэтага шукаць доўга ня прыходзіцца.

Ліга Народаў зрабілася як-бы нейкаю прыгожаю гаварыльняю дзеля зусім лішняе трэніроўкі міжнародных аратараў-дыплёматаў. Ліга сабе пагаворыць, нешта пастановіць, а справа міжнародных непаразуменьняў квасіцца, як кажуць, сама сабою, аж пакуль ёй гэтага стане даволі.

Мы бачым, што і ў нашыя дні шырокіх размоваў аб прынцыпе самаазначэньня народаў, зусім нядаўна яшчэ ўваскросшыя з няволі да новага, дзяржаўнага жыцьця народы, пачуўшы тую ці іншую ўнутраную моц, хварэюць старою, яшчэ нязжытаю, хваробаю — імпэрыялізмам.

Найлепшым доктарам ад гэтай хваробы, як нам здаецца, й павінна зьяўляцца Ліга Народаў, але сапраўды народаў, а не дзяржаваў.

Калі-б сапраўды ў Лізе Народаў мелі прадстаўніцтва ўсе народы, ня вылучаючы й тых, якія могуць сягоньня быць аднесены яшчэ да катэгорыі народаў недзяржаўных, дык сама праца Лігі была-б можа, праўда, яшчэ цяжэйшай, але рашэньні Лігі былі-б гэтак сама шмат рэальнейшымі. Кожная нацыя, ўваходзячы ў Лігу з сваім прадстаўніцтвам, не пачувала-б сябе запомненай, пакрыўджанай і брала-б на сябе роўную долю адпавядальнасьці за ўсясьветны мір.

А цяпер гэтага няма, бо ўвайсьці ў Лігу Народаў ня так ужо й лёгка навет народам, да сувэрэннага жыцьця паўстаўшым.

Здараюцца рэчы ненормальныя ў міжнародным жыцьці, а Ліга Народаў толькі й можа браць гэтыя ненормальнасьці за матар'ял дзеля сваіх дыскусіяў.

Нас найбольш датыкае сучасная палітыка маладое Польскае Рэспублікі, паміж іншым можам зірнуць на рашэньні Лігі Народаў па двох бесканечных пытаньнях: Віленскім і Верхня-Сьлезкім.

Польшча бліснула сваім моцным маладым мілітарызмам, які зьяўляецца яе найбольшаю сілаю, бо гаспадарчае яе палажэньне з вельмі дрэннага боку ілюструецца баечным абніжэньнем яе валюты, якая, пакуль што, ніяк ня можа затрымацца на месцы ў сваім далейшым паданьні.

Польшча марыла аб сваіх калішніх граніцах і яшчэ нядаўна даходзіла сваею мілітарнаю сілаю на ўсходзе аж да Беразіны.

Сягоньня яна спрачаецца за меншае: за Віленшчыну, за Верхнюю-Сьлезію і за Усходнюю Галіцыю.

Першая і апошняя з гэтых тэрыторыяў—землі этнографічна зусім няпольскія.

Сколькі ні трубіць эндэцыя аб польскасьці насяленьня Віленшчыны, а факт застаецца фактам: ня ўсё так ёсьць, як здаецца эндэкам, дый ня толькі ім адным.

З-за Віленшчыны спрэчка йдзе з Літвою. Ліга Народаў на агульным сваім сабраньні рашае справу на карысьць Літвы.

Але не пасьпела быць напісанай набела пастанова Лігі, як тэлеграфныя весткі б'юць малянечкі адбой, быццам Ліга не рашае, яна толькі радзіць. Значыць—Ліга гаворыць, а час ідзе й непаразуменьне трывае далей.

Ясна зусім, што гэткая дарэмнасьць і ні для каго неабавязковасьць рашэньняў Лігі Народаў найгорш за ўсё іншае разьменьвае яе аўторытэт у вачох сьвету.

У Верх. Сьлезіі адбыўся плебісцыт, або ўсенароднае галасаваньне, з саўсім ня тымі рэзультатамі, якіх чакала Польшча. Адбылося паўстаньне. Яно было зьліквідована, але ня была зьліквідована сама Верхня-Сьлезкая справа. Есьць навет дзіўныя чуткі, што ў Лізе Народаў раздаюцца галасы за... новы плебісцыт, за новае галасаваньне. А гэта-ж сапраўды багатая тэма для гаварэньня!

Аб Усходняй Галіцыі можна сказаць, што яна ня ў лепшым палажэньні за іншыя тэрыторыі, за якія спрачаецца Польшча.

Напэўна можна спадзявацца, што ў Лігу Народаў трапіць і ранейшае міжнароднае рашэньне аб польскай усходняй граніцы, аб лініі Кэрзона і аб гэтым можа пачацца паважная дыскусія. Шмат іншага матар'ялу для размоваў Ліга мець будзе, але ці можа яна мець пладатворчую працу?

Нам здаецца, што яна не пакіне быць дарэмнай гаварыльняю датуль, пакуль не абыме сабою інгарэсаў ня толькі вялікіх і малых дзяржаваў, а і ўсіх тых народаў, якія маюць права на дзяржаўнае жыцьцё, якія аб гэтым праве ўжо сваю волю выказалі і маюць, хаця й не саўсім разьвітыя, формы дзяржаўн. арганізаваньня. Бо пры сучасным палажэньні часта недзяржаўныя народы якраз і бываюць об'ектам міждзяржаўных непаразуменьняў. Яны ня могуць быць старонай незацікаўленай, а праз гэта ня могуць быць пазбаўлены права голасу.

А так—ня раз яшчэ само жыцьцё народаў спытаецца: ці Ліга Народаў—гаварыльня, ці нешта іншае?

## Верма ў сваю школу.

II.

У пачатковай школе казённага тыпу ў 1912 годзе ў Сакольшчыне я меў 27 вучняў і вучаніц. Больш дзяцей не магла-б зьмясьціць маленечкая кляса. Але, скажам праўду, першы год майго вучыцельства ў новай, мною-ж і адкрытай, школе быў толькі спробаю наагул, ці завяжацца там, сярод каталіцкага насяленьня, школа. Трэ' было надта шмат такту ў адносінах да насяленьня, каб не праваліцца.

Я толькі й чуў, што ў суседняй вёсцы год таму назад маладыя хлопцы павыбівалі вокны ў хаце таго гаспадара, ў якога заначавала, прыехаўшая дзеля заснаваньня школы, „руская“ вучыцелька. У другой вёсцы амаль ня тое самае здарылася з маладым, толькі што выпушчаным з сэмінары, вучыцелем, які, відаць, пачаў даказваці цёмным сялянам, што яны „рускія“, а значыць і школа ім рыхтуецца адпаведна з гэтым. Шмат яшчэ чаго можна было наслухацца мне, трапіўшы на месца свайго назначэньня.

Першым пытаньнем кожнага новага знаёмага селяніна, ці сялянкі было заўсёды: „Ці вы, паночку, польскі ці рускі? Я лёгка дагадаваўся, што на мове мясцовых сялян гэта значыла, каталік я, ці праваслаўны? Але ўдаваў, што я разумею іх проста і адказваў заўсёды, што я ня рускі й не паляк, а вось такі самы, як і ўсе яны. Іншая рэч, калі, прыводзячы дзяцей у школу, бацькі іх пыталіся ў мяне, як я іх буду вучыць. Тут я адказваў, што буду вучыць так, як умею, а каб школа ня была бяз духоўніка, дык абавязкова напішу да начальства, каб назначаны быў у школу ксёндз, якога сяляне, ведама-ж, ахвотна вазілі-б у школу можа й не адзін раз на тыдзень. Аднак, скольні я ні пісаў аб ксяндзу, нічога з гэтага ня выходзіла, бо было нейкае распараджэньне, каб ксяндзы выкладалі Закон Божы парасейску, паводле адпаведных выданьняў, прызнаных касьцельнаю віленскаю іерархіяй. Але ксяндзы гэтае распараджэньне бойкатавалі і школа абодва гады выпушчала вучняў без Закону Божага.

Усімі сіламі я стараўся быць далей ад розных рэлігійных пытаньняў, бо, сам будучы праваслаўным, вучняў меў толькі каталікоў. Я навет пастанавіў сабе не гаварыць у клясе звычайных школьных малітваў, каб ня ставіць пытаньня: на якой мове іх гаварыць? Праканаўся на практыцы, што гэта быў найлепшы выхад. Я проста ўваходзіў кожную раніцу ў клясу, вітаў дзяцей і пачынаў лекцыі. Хутка дзеці прывыклі да мяне, а я да іх і нас ужо нішто не разлучала. Хаця кляса ўся была ўвешана нялічанай грумадай каталіцкіх абразоў і абразікаў, вялікіх і зусім маленечкіх, школа была, па сутнасьці сваёй, саўсім сьвецкаю. Так і прайшла цэлая зіма, аж пакуль пад весну інспэктар мой ня спытаўся ў мяне, калі я быў у яго аднаго разу, якія малітвы чытаюцца ў мяне ў клясе і якія абразы вісяць на сьценах. Хаця я пачуў душою нядобрае, аднак сказаў начальству праўду.

Неўзабаве пасьля гэтае размовы, я адтрымаў ад інспэктара паперу, што абразы ў школе павінны быць толькі „прынятыя праваслаўнаю царквою“, а малітва трэба гаварыць у клясе паводле „малітваслоўаў сынодальнага выданьня“, гэта значыла — малітвы праваслаўныя. У паперы тлумачылася, што, калі няма нікога праваслаўнага з вучняў, дык малітвы павінен гаварыць сам вучыцель. Нешта каменнае душыла мне сэрца, але я рашыўся ніяк не дапусьціцца да таго, каб школа мая праваліся.

З дзяцьмі я, — 20-ць гадовы юнак,— ужо моцна зжыўся. Дастаючы кожны тыдзень сьвежы нумар „Нашае Нівы“, я ў суботнія дні ахвяроўваў адну гадзіну на тое, каб пачытаць з яе дзецям апавяданьні, байкі, жарты. Спачатку дзеці покатам хадзілі ад сьмеху, слухаючы гэткія жартаўлівыя апавяданьні, як „Параска Парканіха“, „Рабы Міхась Крэчка, што быў за судзьдзю“ і інш.

# З ПРЭСЫ.

## Ўражаньні з Валыні.

(Гл. № 13).

Падаем з „Robotnik“а далейшыя „Wrażenia z Wołynia“ р. Tadeusza Hołówko:

«Польскія ўлады на Валыні павінны паставіць сябе на адпаведную вышыню, быць далікатнымі й тактоўнымі, маючы ясна акрэсьленую лінію павядзеньня, калі мы хочам, каб сапраўды зьвязаць Валынь з Польшчаю моцнымі вузламі.

Ня трэба запамінаць, што край гэты ў працягу 5-х гадоў быў тэатрам ваенных дзеяў: там адбываліся баі ў часе ўсясьветнае вайны, пасьля паміж украінцамі й бальшавікамі, пазьней—украінцамі й палякамі, нарэшце паміж гэтымі апошнімі й Сав. Расеяй. Гэтак напр., ад пачатку паўстаньня ўсясьветнае вайны да цяперашняй мінюты Крамянец пераменіў улады 32 разы. Праз гэта няма нічога дзіўнага, што сярод насяленьня вырабіўся пагляд, што няма нічога на сьвеце болей нястойкага, як улада. І праз гэта можна часта чуць сярод насяленьня як-бы зьдзіўленьне з таго, што гэтак доўга стаіць спакой — адтуль ідуць часта чуткі аб наступленьні „бальшавікоў“, аб эвакуацыі Вільні і г. д.».

Пераходзячы затым да характарысткі ўладаў на мясцох, аўтор кажа:

«Не падлягае сумлеўку, што цывільныя ўлады на Валыні ўжо шмат зрабілі ў кірунку ўпарадкаваньня адносін і ў сэнсе абароны грамадзкай бясьпечнасьці, наданьня магчымасьці пачаць нормальнае жыцьцё і працу. Прыкладам, старасты, наскольки меў магчымасьць прыглядзецца,—людзі добрае волі й энэргічныя.

Але затое ніжэй усялякае крытыкі ўлады другое інстанцыі — а гэта ваяводзтва. Прычына гэтага ў тым, што ваяводаю стаў п. Кначкоўскі, выдалены ў свой час з Петраградзкае адвакатуры за неэтычныя паступкі, «warjat», які прыпамінае сабою Шчэдрынскага помпадура і зьяўляецца свайго роду сьмехавішчам на ўсю Валынь“.

Але самае хворае пытаньне на Валыні, як і на іншых „kresach“, вось якое:

«Сапраўды-ж, не падлягае ніякаму сумлеўку, што тое, што робіцца на Валыні з зямельным пытаньнем, зьяўляецца адным вялікім скандалам. Ваенныя ўлады, кіруючыя ваеннымі пасяленьнямі, знаходзяцца на палажэньні яўнае, гарачае вайны з цывільнымі ўладамі. Пасяленьне ў цяперашняй форме рабочых колённаў можна лічыць наагул няўдачным—найлепшым доказам гэтага служыць тое, што маецца на ўвазе зьмена гэтае формы. Але з другога боку ня робіцца нічога дзеля таго, каб ваенным пасяленцам сапраўды даць зямлю. Жаўнер мае даволі ўсіх гэтых прыказаў—хоча стаць самастойным гаспадаром. Трэба—альбо даць зямлю ўва ўласнасьць, альбо зрабіць падзел двароў, даць спосабы да гаспадараваньня, альбо залажыць сельска-гаспад. коопэратывы. Тымчасам, напр., у Крамянецкім пав. ёсьць толькі 2 каморнікі і калі яны толькі будуць працаваць, дык за некалькі гадоў ня скончаць памераў. З другога боку, рабочыя колённы займаюць двары, якія раней, каб не пуставалі, былі адданы цывільнымі уладамі сялянам, альбо іншым земляўласьнікам—адсюль заўсёдныя спрэчкі паміж афіцэрамі—начальнікамі колённаў і ўласьнікамі зямлі. Колённы ня хочуць слухаць ніякіх прыказаў цывільных уладаў. Гэтак, напр., мне перадана, што ў двары Радзівілава паручнік Савіцкі, начальнік 1-е абложнае коннае брыгады пагражаў ужыцьцем зброі проці паліцыі, якая хацела ўмяшацца ў спрэчку паміж колённай і ранейшым земляўласьнікам. Але, што блага, дык гэта тое, што часта колённы ўваходзяць у спрэчку з мясцовымі сялянамі. Гэтак, напр., у Белазерцы, Крамянецк. пав., рабочая колённа пасьвіла коняў у гародзе, нанятым мясцоваю сельскаю грамадою... Часта таксама ваенныя ўлады робяць страшэнныя абмылкі. Гэтак, напр., разьмешчаны колённы ў вядомай Пачаеўскай лаўры. Праўда, лаўра мае лішку зямлі, але-ж тады трэ' было-б альбо зусім зачыніць лаўру, разагнаўшы манахаў, альбо, калі пакінулі іх, лічыцца з тым, што гэта ёсьць антыпольскае гняздо. Тым больш, што побач з самаю лаўраю ў суседніх сёлах і вёсках сядзяць 1.000 сем'яў безьзямельных, што жылі з земляў, арандаваных у лаўры. І, замест таго, каб зямлю адабраць ад манахаў ды перадаць безьзямельным, роўна-ж і праваслаўным, аддалі ваенным колённам, якія, нягледзячы на протэсты манахаў, абрабляюць і засяваюць зямлю. У—рэзультаце шалёнае нездаваленьне манахаў, шалёнае нездаваленьне ваколічнага насяленьня. У дадатак жаўнеры трымаюцца ў адносінах да манахаў нядобра, зьдзекуюцца з іх, твораць усялякія няпрыемнасьці, займаюць іх гаспадарчыя будынкі. У часе праваслаўнага Вялікадня нейкі п'яны жаўнер прыйшоў у час багаслужэньня, якое адбывалася ў полі, зламаў аўтар, ськінуў Расьпяцьце на зямлю, а сьвечкі забраў у кішані. Калі да гэтага дадам, што цяперашні начальнік рабочай колённы ў Пачаеве, як ходзіць аб тым дзейка, разам з жыдамі трымае ваколічныя гароды, выганяе самавольна старых уласьнікаў гародаў з пакінутых двароў, хоць і не адданых колённам, прымушае войта падпісваці фантастычныя рахункі за пастаўкі, дык будзе зразумела, як ўсё гэта шкодзіць польскай дзяржаўнасьці. Ня трэба запамінаць, што ў вялікія сьвяты сьцякаюцца ў Пачаеў дзесяткі тысячаў праваслаўных і разносяць дзейку аб такіх начальніках.

З другога боку кеўліцца мясцовае насяленьне несправядліваю парцэляцыяй пакінутых двароў. Адна палова іх прадаецца пасяленцам з Крулевства па 30—35 тыс. за дзесяцiну, ў той час, як другая палова прадаецца мясцовым украінцам па 70 — 75 тыс. за дзесяціну.

Натуральна, што за гэткую цану можа купіць толькі багаты селянін—малазямельны ў гэты час бачыць, як зямля пераходзіць у рукі жаўнераў, заможных перасяленцаў з Польшчы ды мясцовых „кулакоў“—адсюль зразумелае нездаваленьне, спагадны грунт для агітацыі «бальшавіцкай».

(Канец будзе).

# Замежныя весткі.

## Савецкая Беларусь.

Беларускі Камісарыят заграгічных справаў ў апошні час распачаў сваю заграгічную палітыку, якая робіцца ў цеснай сувязі с Масквою, дзе беларускім паслом т. Мароз.

Новастворaны Камісарыят зьбіраецца адчыніць за граніцаю пры прадстаўніцтве Рас. Соц. Фэдэр. Сав. Рэсп. асобныя консульствы, першым чынам у Чэха-Славакіі і Лацьвіі.

— Поэт Якуб Колас скончыў сваю поэму «Сымон Музыка», якой дагэтуль было надрукована толькі пяць часьцей.

— Кіраўніком Беларускага Політэхнікуму ў Менску выбраны вядомы культурна-нацыянальны працаўнік грам. Васілевіч.

— Рэктарам Беларускага унівэрсытэту ў Менску выбраны прафэсар Пічэта. Лекцыі чытаюць: акадэмік Карскі, проф. Любаўскі, проф. Эпімах-Шыпіла, проф. Янчук і інш.

— Поэты Янка Купала, Якуб Колас і некаторыя пісьменьнікі, разам з профэсарамі, працуюць у камісіі па ўкладаньню беларускай тэрмінолёгіі.

— Поэт Якуб Колас, які нядаўна вярнуўся з Маскоўшчыны ў цяжкім матар'яльным становішчы, дастаў авансам 4.000.000 савецкіх рублёў за зборнік сваіх новых твораў, які ўжо друкуецца і неўзабаве выйдзе ў сьвет.

— Зьезд рабочых-хімікаў Савецкай Беларусі ад'значыў павышэньне вытвару ўсіх прадпрыемстваў у зьвязку з ажыцоўленьнем новай аканамічнай палітыкі. Картонная фабрыка пачала вырабку картону, годнага для вывазу за граніцу. Усе шкляныя і сернічныя фабрыкі забясьпечаны сырцом на доўгі сас („Новый Путь“).

— Савецкі маскоўскі ўрад дазволіў фэдэрацыйным і аўтаномным Савецкім рэспублікам друкаваць свае ўласныя грашавыя знакі. Маюць зьявіцца беларускія савецкія грошы з беларускімі напісамі.

## Беларускі спэктакль у Дзьвінску.

У чацьвер, 15 верасьня, у Дзьвінску адбыўся беларускі спэктакль у вялікім будынку Жалезнадарожнага тэатру. Пастаўлена была п'еса „На Антаколі“ Ф. Аляхновіча. Публікі было поўны тэатр. Гэта першы беларускі спэктакль у Дзьвінску.

Заля, фойэ былі раскошна і з вялікім густам убраны шчыра аддaнымі справе беларускамі, з якіх найболей з акончыўшых беларускія курсы. Іх стараньнямі прыгатоўлена аграмадны лік красак.

Артысты ігралі надзіва—добра.

Асабліва трэба ад'значыць гр. Заліўскага, іграўшага ролю Язэпа. Роля праведзена з такім мастацкім выпаўненьнем, што публіка была проста ў наднясеньні.

Асабліва падабалася яго пяяньне, споўненае пад акомпанімэмт музыкі, компазыцыя якое напісана адным з артыстаў (Сакаловым).

Годнай Заліўскага была гр-ка Сямёнава ў ролі Зоські. Гэта над'звычайна талентная артыстка і тып Зоські ею паказаны ўва ўсёй паўнаце. У канцы І акту яна станцавала лявоніху слаўна і міла.

Абое выклікалі моцны аплёдысмэнты і крыкі: біс, браво. Але трэба сказаць, што і ўся трупа была вітана публікаю над'звычайна.

З другіх артыстаў трэба ад'значыць ігру гр. Кляменцьева іграўшага ролю Віцэнтага. Ён быў так натуральны, так свабодна трымаў сябе ў ролі, што проста гіпнотызаваў публіку.

Харошая была і пані Лешчык у ролі Міхаліны. Шкода трошкі, што чуўся ў яе прыроджаны украінскі акцэнт, але ў ігры яна была, як трэба, на месцы.

З гр. Астроўскага выйшаў тыпічны чыноўнік—Ігнат. Тое самае можна сказаць і аб Сакалове ў ролі Рафала.

Нішто сабе былі і кумачкі. Ніхто не сказаў-бы, што ігралі аматары. Праўда, што між імі — профэсыянал—ён жа рэжысэр трупы (Заліўскі).

Відаць працу рэжысэра, а таксама над самімі сабой і артыстаў і іх жаданьне прылажыць усе сілы на славу роднага мастацтва.

На спэктаклі быў Лацьвійскі міні-

---

КОСТУСЬ. Я ніколі ня важыўся казаць вам гэта, цяпер неяк пачаў, ну дык—усё роўна! — буду ўсё гаварыць да канца... Адразу ўсё і сякі, ці такі канец... Шкада часу, жыцьцё наша гэтакае кароткае: адзін міг. Вы любіце Васіля... А ён лёгка можа абыйсьціся бяз вас... Доля ня была для яго такой мачахай, як для мяне. Ён мае радасьць творчасьці, веру ў сваю ідэю. Можа навет ляпей яму будзе бяз вас... А я на ўсенькім сьвеце нічога ды нікагусенькі ня маю апрача вас аднэй. Вы для мяне ўсё: мая радасьць, маё шчасьце, мая мэта жыцьця.

ЯДЗЬКА. Пане Костусь! Вы ня маеце права казаць мне гэтакіе рэчы!

КОСТУСЬ. Ня маю права? Чаму? Той, каму хутка ўжо вечная цемра закрые вочы, хоча спавядацца, а перад кім-жа спавядацца мае, калі не перад вамі, перад вамі, каторая запанавала над маей душой?

ЯДЗЬКА. Я з свайго боку не зрабіла нічога такога, штo-б дало вам повад...

КОСТУСЬ. Пані! віной усяму вашы васільковые вочы, каторые, бяз вашага ведама, вабілі мяне кінуцца ў няведамую пропасьць, віной—музыка вашага голасу, што слух мой вабіла як найпрыгажэйшая мэлёдыя, віной—пах вашых валасоў, віной—ваш сум, за каторы я палюбіў вас яшчэ мацней, бо бяздольные бяздольных адчуваюць. Калі крануць струну аднэй з двох наведзеных на адзін тон гітар, дык тая самая струна другой гітары адклікнецца... Гэтак і душы людзей, пані, гэтак і душы...

Цяпер я сказаў ужо ўсё... Цяпер усё толькі ад вас залежыць... Адно ваша слова, — і пачнецца для нас новае жыцьцё! Пані Ядзя!.. (*хапае яе за руку і пачынае цалаваць руку*).

ЯДЗЬКА (*праз увесь гэты час глядзела на Костуся з вялікім дзівам. Цяпер вырывае сваю руку і адыходзіць спалоханая*). Што вы? Ды кіньце!.. Што вы робіце! ня трэба!.. я вас баюся...

КОСТУСЬ. (*пахіляецца перад ёй на зямлю*). Не баранецеся, ня бойцеся... Я буду вашы ногі цалаваць, чалом на зямлі ля вашых ног ляжаць, целам сваім усялякіе калючкі на вашым шляху прыкрываць—толькі зьлітуйцеся нада мной! прытулеце маю змучаную галаву, хай вашы валасы зьмеямі абкружаць шыю маю... (*абыймае яе*).

ЯДЗЬКА (*вырваўшыся*). Што вы робіце! вы ашалелі?—Я *ня люблю* вас.

КОСТУСЬ (*як п'яны*). Ах... праўда!.. Вы любіце каго іншага... Я ўзапраўды сёньня як п'яны... Ах, выбачайце... Ня гневайцеся. Бывайце здаровы... (*выходзіць, хістаючыся, ў свой пакой*).

ЯДЗЬКА (*адна*). Што гэта было? Як гэта здарылася?.. Нейкі дзіўны сон!.. Ох, галава баліць... (*паўза*). Няшчасны ён... (*сядае, апірае галаву на руках і ціха кліча*): Пане Костусь! (*Маўчанка. Галасьней*). Пане Костусь!.. (*Маўчанка. Ядзька памалу ўстае і ціха падыходзіць да правых дзьвярэй. Затрымаўшыся на парозе, крыкнула, закрыла вочы рукамі і адскочыла*). Пане Костусь! Што вы робіце!?

КОСТУСЬ (*уваходзіць пасьля паўзы з вяроўкай у руцэ*). Вы мяне клікалі? Чаго вы спалохаліся?.. Вы думалі, што ўжо я... А калі-б навет і так, дык што?.. Так было-б ляпей... Ах, праўда! вы спалохаліся, што тут у вашай хаце, тут за сьцяною будзе труп... Але супакойцеся, пані! Гэта толькі у тэатры драматычные гэроі гэтак лёгка робяць самагубства. Узапраўды бывае інакш. Расстацца з жыцьцём гэта вельмі трудная справа. Расстаюцца з жыцьцём або людзі ненормальные з атрофіраваным інстынктам жыцьця, або людзі, каторые надта шмат страцілі. У мяне-ж невялічкая ўтрата, наадварот... Надзеі, каб вы палюбілі мяне, я мала меў...—гэта, што было, гэта нейкая п'янасьць, ваша прысутнасьць тут каля мяне закружыла мне ў галаве... Я складваю свае рэчы і адыходжу адсюль багацейшы, чымся прыйшоў. Паяўленьне ваша на маім шляху было неспадзяваным прасьветам, які часам зазьяе спаміж пакрыўшых небасхіл васенных хмар. Я, як дзіця, або дурны і плакаў і сьмяяўся, лавіўшы рукамі гэты сонечны прамень... Але хмары йзноў згусьціліся, ізноў лягла на душу шэрая туга, ізноў вецер зашумеў між сухімі галінамі, абмываючы іх сьлязьмі дажджу... —За мінюту сонечнага праблеску ў хмарным маім жыцьці—дзякую вам! Успамін аб вас будзе для мяне заўсёды найдаражэйшым клейнотам. Пройдуць гады, і я, капаючыся ў пражытых хвілінах, знайду гэты ўспамін, набожна пацалую яго і зноў схаваю глыбока-глыбока, на самае дно душы маей, каб ніхто ня сьмеў бачыць маё багацьце, каб ніхто ня ўкраў мой скарб—мой успамін аб вас... Але не! ніхто не ўкрадзе! З памяцьцю аб вас я—падарожны—пайду далей сваей дарогай, хаваючы ў душы свой пазычаны з неба ясны прамень—успамін. І толькі там, дзе ўжо будзе канец мае падарожы, дух мой сядзе на кургане і аддасьць небу пазычаны прамень...

Вось і ўся казка! — Васіль пайшоў ад вас з сваей „няскончанай драмай“, а я — адыходжу ад вас з драмай скончанай. Я ўжо паставіў пункт... За шалёную мінюту, калі з маіх вуснаў вырваліся гарачыя словы каханьня, — яшчэ раз прашу вас: выбачайце... (*ідзе ў свой пакой*).

ЯДЗЬКА (*слухала яго праз увесь час, як загіпнотызаваная. Пабачыўшы, што ён хоча йсьці, ўстрымоўвае яго клічам*): Пане Костусь!

КОСТУСЬ. (*устрымоўваецца*). Што?

ЯДЗЬКА (*глядзіць на яго, але нічога ня кажа*).

КОСТУСЬ. Мне здавалася, што вы мяне клікалі.

ЯДЗЬКА (*бярэ яго за руку і апускае вочы*). Драма яшчэ ня скончана...

З а с л о н а.

Канец.

Менск. 1920 г.

стар Адукацыі, які шчыра дзякаваў артыстам і асабліва рэжысэру за дастаўленую прыемнасьць і выказаваў сваё зьдзіўленьне ігрою маладой трупы.

Публіка закідала артыстаў краскамі.

Трупа аб'яжджае з пастаноўкамі і па павеце. Ужо былі ў Бароўцы і Краслаўцы. Усьпех вялікі. Едуць у Рэжыцу з „Манькай“, таго самага аўтора.

**Ігналь Атожылка.**

# Палітычная хроніка.

*Пятніца*, 23 *верасьня.*

— У Парыжы, ў зьвязку з паседжаньнямі Рады Лігі ў справах Віленшчыны, польскі пасол Замойскі меў нараду з прэм'ерам Брыянам.

— У аўторак адбылося пленарнае паседжаньне Рады Лігі Народаў у справе прыняцьця ў Лігу Літвы. Проці прыняцьця галасавалі Ашкіназі (Польшча) і Такэ Іонэску (Румынія).

— „Kurjer Polski“ паведамляе, што савецкі пасол у Рызе Ганецкі, выехаў гэтымі днямі ў Маскву, дзеля таго, каб паразумецца з Саветамі і заключыць умову проці Польшчы.

— Чычэрын выслаў саюзьнікам ноту, ў якой не згаджаецца на прысылку ў Расею кантрольнай камісіі. Што датыча розных тлумачэньняў, дык яны будуць высланы праз Нуланса. Разам з гэтым паведамляе, што справа помачы вырашана з Нансэнам і Гувэрам, якія запраўды нясуць помач галодным.

— У Вэнгрыі спадзяваюцца новых выступленьняў так званых карлістаў; у Будапэшце ўчора былі вулічныя беспарадкі. Італьянская прэса вінаваціць у гэтым немцаў.

— Пленарнае паседжаньне польскага Сойму назначана на заўтра. На гэтым паседжаньні новы прэм'ер зложыць сваю дэклярацыю.

— Ангельскі ўрад у ноце, высланай у Маскву, дабіваецца высьненьня, чаму бальшавікі вядуць варожую палітыку ў Азіі.

— У Канстантынопалі адкрыт варожы згавор проці саюзьнікаў. Пан Гарынгтон дзякаваў туркам за выкрыцьце згавору.

*Субота*, 24 *верасьня.*

— У Баварыі выбіраецца новы прэзыдэнт міністраў; згодна з чуткамі моцную кандыдатуру мае міністар прасьветы доктар Фуглінг.

— Ходзяць чуткі, што вэнгерскі пасол С. Фрыдрых мае замер абвесьціць заходня-вэнгерскую рэспубліку.

— Учора дэлегат Францыі Буржуа меў доўгую размову з проф. Ашкіназі аб справе Віленшчыны, падкрэсьліўшы надзею, што Польшча разьвяжа мірным спосабам гэтае пытаньне.

— Соймавыя польскія клюбы моцна абураны рашэньнем Лігі Народаў аб Віленскім пытаньні.

— Прэм'ер Польшчы Панікоўскі ўчора гаварыў аб жыдоўскіх справах з рабінам, паслом Сойму Гонам.

— У Львове разышліся чуткі, што Пятлюра са сваім штабам перабраўся на Украіну, дзе павінен распачаць шырокую паўстанчую акцыю. Ходзяць весткі, што ён мае на Украіне свае камітэты і больш, як 50.000 войска.

— Ходзяць чуткі, што Лёйд-Джордж паслаў новую умову да сінфэйнэраў, каторую павінны прыняць ірляндцы, але палітычныя колы добра паінформаваныя аб гэтай справе гавораць, што гэта скончыцца толькі безрэзультатнай перапіскай.

— Рымскі Папа выслаў да Лігі Народаў ліст, у якім просіць Лігу зрабіць найскарэйшыя захады ў сэнсе помачы галодным у Расеі.

— Помач Эстоніі галодным Расеі перарвана да таго часу, пакуль Саветы не дадуць адказу на жаданьні Эстонскага Чырвонага Крыжа.

*Нядзеля*, 25 *верасьня.*

— Згодна з статыстыкай, у Самары ў студзені месяцы дзенна зарэестрована 10 выпадкаў падкіданьня дзяцей, у лютым 28, у красавіку—34, сакавіку—28, маі—70, у чэрвені—131, у ліпні—142. У Царыцыне у прытулках 40% дзяцей хворых.

— „Echo de Paris“ паведамляе, што прамысловы вокруг Верхняе Сьлезіі, згодна з пастановаю камісіі Чатырох, павінен быць падзелены.

— Новы польскі прэм'ер-міністар Панікоўскі выслаў да саюзьнікаў паведамленьне, што ім зложаны новы ўрад.

— У Вене адбыліся патрыятычныя маніфэстацыі, на якіх раздаваліся выкрыкі на чэсьць быўшага імпэратара Кароля і варожыя выкрыкі проці Чэхаславакіі і Югаславіі.

— Эстонія адтрымала ад Чычэрына адказ на сваю ноту. Міністар заграгічных справаў Эстоніі меў нараду з Ліцьвінавым, адносіны паміж дзяржавамі выясьнены.

— У Баварыі граф дэ-ля-Рогэнфэльд назначаны намесьнікам быўшага прэм'ера Кара.

— Паводлуг вестак, у Савецкай Беларусі высяляюцца палякі у Расею, галоўным чынам у Архангельскую губ.

*Панядзелак*, 26 *верасьня.*

— Троцкі на пленарным паседжаньні Саветаў заявіў, што Польшча і Румынія ня маюць жаданьня ваяваць і што ўсе спрэчныя, да гэтага часу, справы, удасца рашыць без калатні — дарогаю ўзаемных уступак.

— Начальнік Польскай Дзяржавы Пілсудскі выехаў у Львоў на ўрачыстае адчыненьне усходніх таргоў.

— Быўшы ваенны міністар кабінэту Керэнскага, Вярхоўскі, назначаны галоўнакамандуючым войскамі, што усьміраюць паўстаньне на Украіне.

— Корэспондэнт Рэйтэра паведамляе з Уладывастоку, што, як толькі былі адтрыманы весткі аб расстрэле ў Петраградзе Таганцава, Лазарэўскага, Ухтомскага і інш., заразжа там былі расстрэлены арыштаваныя камуністыя з Неюкавым на чале.

— „Известия“ паведамляюць, што пры выбарах у Меставую Менскую Раду выбрана 203 камуністы і 45 беспартыйных.

— Троцкі паведаміў Адэскую Меставую Раду, што Румынія творыць варожыя для Расеі арганізацыі, якія пагражаюць зьнішчэньнем ураджаю правага берагу Дняпра.

— Савецкая прэса стрывожана вельмі частымі, за апошні час, чугуначнымі катастрофамі.

*Аўторак*, 27 *верасьня.*

— У Львове дана тры стрэлы ў кірунку самаходу, ў які сядаў Начальнік Польскай Дзяржавы Пілсудскі разам з ваяводаю, пасьля ганаровага абеду ў яго чэсьць. Ваявода Грабоўскі лёгка ранены. Начальнік Дзяржавы выйшаў непашкоджаным. Страляў нейкі Федак, сын львоўскага адваката. Паліцыя выратавала яго з рук натоўпу, які хацеў зрабіць самасуд. Н-к Дзяржавы пае

# Ўсебеларускі Зьезд 1917 г.

**(Рэфэрат чытаны ў Лодзі для афіцэраў Беларускіх Вайсковых Аддзелаў і служачых Беларускай Вайсковай Камісіі 27 кастрычніка 1920 г.).**

(Гл. № 13).

Такім чынам, Зьезд усе неспакойныя момэнты перажыў і хутка падходзіў да свайго апошняга слова — да галасаваньня тых палажэньняў, якія былі апрацованы ў сэкцыях, камісіях, фракцыях, зямлячаствах і Радзе Зьезду.

Зямлячаствы ўжо агаласілі на Зьезьдзе свае дэклярацыі. Дэклярацыя магілёўскага зямлячаства выйшла, як і раней думалася, моцна масквафільская; крыху мягчэйшаю ў гэтым сэнсе была дэклярацыя віцеблян. Найбольш „сэпаратызму“ мела ў сабе дэклярацыя горадзенскага зямлячаства, якое мела ў сабе гэткіх сяброў, як Язэп Варонка, аб якім казалі, што ён ужо з тыдзень насіў у кішані „самастойніцкі“ унівэрсал, які зьбіраўся падаць на галасаваньне Зьезду. За горадзенскім ішлі: віленскае, смаленскае і менскае зямлячаствы з крыху слабейшымі, ў незалежніцкім сэнсе, дэклярацыямі.

Зьезд прыняў да ведама ўсе гэтыя дэклярацыі, якія, паступіўшы ў Раду Зьезду, паслужылі новым матар'ялам да агульных палажэньняў апрацованай Радаю рэзалюцыі.

Апрача гэтага цяпер, пасьля злажэньня дэклярацыяў зямлячаствамі, выявілася, што на зьезьдзе будуць змагацца, не якія-нібудзь „правыя“ і „левыя“ кірункі, а, галоўным чынам, два нязгодныя кірункі: 1) ў с х о д н і, або м а с к в а ф і л ь с к і начале з абкасьнікамі-магілёўцамі і 2) з а х о д н і, больш нацыянальна сьвядомы й больш незалежніцкі на чале з элемэнтамі, згрупаванымі ў Вялікай Радзе, якая склікала самы Ўсебеларускі Зьезд.

Мы спамянулі некалькі разоў аб Радзе Зьезду. Аб ёй цяпер мусім сказаць крыху ясьней.

Рада Зьезду была зложана, як толькі Зьезд сабраўся. Ў Раду Зьезду ўходзілі прадстаўнікі ўсіх чыста групіровак, быўшых на Зьезьдзе. Найбольшыя фракцыйныя і партыйныя групы, а нароўні з імі і самыя дробныя лікам аб'яднаньні мелі сваіх прадстаўнікоў у Радзе Зьезду.

Гэткім чынам, Рада Зьезду зьяўлялася, як-бы Малым Зьездам, органам больш рухавым у практычнай працы і спачатку яна гэтак, навет і называлася Радаю Старэйшых (сеньёрэн-конвэнт).

Рада Зьезду, разумеецца, не магла выносіць тых, ці іншых пастановаў ад імя Зьезду без агульнага (пленарнага) пасяджэньня яго.

Але гэты, проста утвораны, орган вельмі прыдаўся пасьля таго здарэньня, якое нікім тады, напэўна, ня было прадугледжана.

Здарэньне гэтае—г в а л т о ў н ы  р а з г о н Зьезду бальшавікамі.

Самы момэнт разгону Зьезду апісаны мною ў артыкуле „Разгон“, зьмешчаным у журнале „Беларускае Жыцьцё“ № 7 (29) за 18 сакавіка 1920 году і тут мне прыдзецца коратка паўтарыцца.

Ўсебеларускі Зьезд займаў амаль што лепшыя будынкі ў Менску. У тэатры „Акварыум“ на Юраўскай вул. была арганізована дарэмная сталоўка для сяброў Зьезду. Сэкцыямі, камісіямі і фракцыямі Зьезду займаўся быўшы Губэрнатарскі Дом, што на Пляцы Волі (Катэдральны Пляц), агульныя (пленарныя) насяджэньні Зьезду адбываліся ў Гарадзкім Тэатры і, калі тэатр бываў заняты, ў Шляхоцкім Доме. Абодва гэтыя апошнія будынкі зьмяшчаюцца адзін проці аднаго па Петрапаўлаўскай вуліцы.

Ў гістарычны дзень свайго разгону Зьезд засядаў у быўшым Шляхоцкім Доме.

Рада Зьезду ўжо ня мала часу разважала ў бакавым пакоі вялікай залі над тэзісамі агульнае рэзалюцыі, якую меў прыняць Зьезд. Абласьнікі цьвёрда трымаліся сваіх масквафільскіх паглядаў, іх праціўнікі цягнулі ў іншы бок, у бок найбольшае самастойнасьці Беларусі.

Пакрысе, адна старана зближалася да другой ў аснаўных пунктах і, нарэшце, агульная мова была знойдзена, хаця спрэчныя месцы ў рэзалюцыі яшчэ былі. Гэтыя спрэчныя месцы Рада пастанавіла вытлумачыць Зьезду праз двох аратараў: аднаго з абласьнікоў і аднаго з праціўнікаў іх.

Да гэткага рашэньня Рада Зьезду прышла каля першае гадзіны ўночы з 17 на 18 дзень сьнежня (ст. ст.).

Агульная рэзалюцыя была агалошана на Зьезьдзе цалком і, перад тым, як галасаваць яе па пунктах, слова было дана аднаму з масквафілаў-абласьнікоў.

Ў залі запанавала нейкая ўрачыстая ціша, якраз, як часам бывае перад бураю.

Толькі падыйшоў да трыбуны аратар і сказаў некалькі слоў, як раптам прашарахцела нейкая лёгкая трывога. Ўсе неяк замітусіліся, напружыўшы нэрвы. Да стала прэзыдыуму Зьезду падыйшлі дзьве шэрыя фігуры ў салдацкіх шынялёх. Старшыня Зьезду грам. Янка Серада пытаецца ў іх дакумэнтаў. Фігура ў новай шапцы з вельмі даўгім брылём голасна заяўляе: „Я начальник гарнизона“... ды яшчэ нешта, але нічога ня чуваць, бо ў залі даволі значны неспакой, усе абураны тым, што „начальнік гарнізону“ гаворыць, ня зьнімаючы шапкі. Гэты начальнік гарнізону ён-жа і часовы камандуючы Заходнім фронтам,—народны камісар Крывашэін. Ён скідае шапку пасьля таго, як раздаюцца галасы. „скінуць шапку!“ Пачынае гаварыць; але сіплівасьць відочна п'янага камісара, агульны гоман і нязкладнасьць словаў п'янага начальства дае толькі магчымасьць чуць першыя словы Крывашэіна, якія ён кажа, зьнімаючы шапку. Чуваць толькі: ...„под видом мягких лайковых перча

хаў у тэатр, дзе публіка горача вітала яго.

— На пленарным паседжаньні Лігі Нар. 24 г. м. пачаўся абгавор справы польска-літоўскага конфлікту. Літоўскі дэлегат Мілош даводзіў папраўкі, выстаўленыя літоўскай староною.

— На паседж. Лігі Нар. Гюманс у 2-х гадзіннай прамове разьвіваў гістарыю польска-літоўск. конфлікту з-за Віленшчыны.

— На палудзенным наседжаньні Лігі Народаў Ашкіназі выясьніў пазыцыю Польшчы ў Віленскай справе. Польскі ўрад трымаецца таго, што як толькі насяленьню Віленшчыны будзе загарантована права самаазначэньня, дык армія гэн. Жэлігоўскага будзе адразу выведзена. Пасьля Робэрт Сэсыль заявіў, што ў Англіі не разумеюць пазыцыі Польшчы ў віленскай справе. Польшча павінна — як яму здаецца — заняць паяднаўчае становішча. Прынята прапазыцыя Сэсыля, каб заклікаць Літву і Польшчу да ўзаемнага паразуменьня.

— Паводлуг вестак лацьвійскае прэсы, Літоўскі Урад пакладзе ўсе стараньні, каб не дайсьці да збройнага конфлікту з-за Віленшчыны.

— Паводлуг урадовых вестак з Канстантынопалю, грэкі адходзяць па ўсёй лініі, маючы замер затрымацца на фартох Сьмірны.

— З прычыны трывожных вестак аб рэвалюцыйныя руху ў Індыі, ангельскі ўрад замерваецца значна павялічыць там свае войскі.

— Нямецкія народнікі моцна дамагаюцца адстаўкі канцлера Вірта.

*Серада,* 28 *верасьня.*

— На паседжаньні Лігі Народаў у Жэнэве, пасьля прамовы Гюманса, гаварыў прадстаўнік Літвы Мілош, які, паміж іншым, заявіў, што аб мірнай ліквідацыі польска-літоўскага конфлікту з-за Віленшчыны ня можа быць размовы датуль, пакуль, войскі гэн. Жэлігоўскага ня будуць выведзены з спрэчнае тэрыторыі.

— Сягоняшняе паседжаньне польскага Сойму прадугледжвае перасылку адпаведным камісіям некалькіх проектаў, а таксама спрэчкі над дысцыплінарным проектам аб адпавядальнасьці дзяржаўных вураднікаў. Магчыма, што, па-за дзенным парадкам, Панікоўскі абвесьціць дэкларацыю новага ўраду,

— Паводлуг чэскае прэсы, Бэнэш у найбліжэйшыя дні выедзе ў паўднёвую Чэхію, дзе спаткаецца з аўстрыйскім канцлерам Шобэрам, каб ізноў пачаць размову аб дагаворы фінансавым і гранічным абедзьвюх дзяржаваў.

— Варшаўская прэса, абмаўляючы львоўскі напад на Пілсудскага, згодна цьвердзіць, што меў ён на мэце тое, каб Ліга Народ. зьвярнула ўвагу на украінскае пытаньне ў Польшчы.

— Расход Польшчы на утрыманьне саюзьніцкай камісіі ў Гданску выносіць у месяц 300.000 даляраў. У верасьні разам з ранейшаю неаплатаю Польшча заплаціла 400.000 даляраў.

— Начальнік Польск. Дзяржавы назначыў міністрам фінансаў Міхальскага.

— Граф Апоны прасіў Лігу Нар. адсрочыць справу прыняцьця Вэнгрыі да наступнае сэсіі.

— Паводлуг урадовых даных, Англія выдала дасюль на безработных 105 мільёнаў фунтаў штэрлінгаў.

— У Варшаве расклеена абвешчаньне аб прызыве новабранцаў гадоў 1899 і 1900.

— У Амэрыканскім Сэнаце пачаўся абгавор справы ратыфікацыі міравых трактатаў.

*Чацьвер* 29 *верасьня.*

— „Times“ паведамляе, што Нямецкая Рэспубліка робіць распараджэньне, якое можа даць магчымасьць мобілізацыі 800.000-ай арміі.

— На ўчарайшым паседжаньні Польск. Рады Міністраў разглядалася справа ўрадовай дэкларацыі, якую прэм'ер Панікоўскі сягоньня агаласіў у Сойме. У заграпічнай палітыцы польскі ўрад імкне да міру, сваею мэтаю ўрад мае навязаць эканамічныя адносіны з суседзямі. Што да справаў Віленскай і Сьлезкай, дык урад трымаецца прынцыпу самаазначэньня насяленьня. Урад апрацоўвае, дзеля ўнясеньня ў Сойм, проект закону аб барацьбе з камунізмам у краі. Урад стаіць на пазыцыі спаўненьня зямельнай рэформы. У адносінах з Расеяй прэм'ер заявіў, што савецкі ўрад, дзеля бязгрунтоўнасьці закідаў, пачне бяз сумлеўку выпаўненьне дагавору.

— „Ost Deutsche Morgenpost“ паведамляе з Ополя, што абгавор верхнясьлезкае проблемы ў Камісіі Чатырох Рады Лігі ўпёрся ў няжывы пункт, таму што Англія зажадала новага галасаваньня, маючага адбыцца ў пазьней акрэсьленым часе. Камісія, як быццам абгаварвае справу вольнае Верхня-Сьлезкае дзяржавы. Францыя гэты проект адкідае.

— У найбліжэйшым часе спадзяваюцца ў Варшаве прыезду эстонскае дэлегацыі, якая мае заключыць з Польшчаю гандлёвы дагавор.

— „Matin“ паведамляе, што нямецкі міністар заграпічных справаў заявіў, што далейшыя, вымаганыя саюзьнікамі выплаты ня могуць быць споўнены. Спаўненьне нямецкіх забавязаньняў будзе залежаць ад прызнаньня за Нямеччынай усяе Верхн. Сьлезіі.

# Жыцьцё провінцыі.

**Рацькаўская вол., Навагр. пав.**

16 жніўня ў канцэлярыю Рацькаўскай воласьці, Наваградзкага павету прыйшоў камэндант 2 роты 25 палку уланаў падпаручнік Астоя і запатрабаваў зараз-жа апаражніць будынак воласьці, а таксама даставіць 20 падвод.

На увагу заступніка войта Краскоўскага, што загад п. Камэнданта ня можа быць выпаўнен, як спрэчны з атрыманымі інструкцыямі ад павятовага старасты, ўсеж-такі гэны Камэндант катэгорычна запатрабаваў спаўненьня свайго загаду.

Назаўтра п. Камэндант ізноў зьявіўся у канцэлярыю воласьці, ужо не адзін, а разам з 10 вааружонымі уланамі і паўтарыў сваё жаданьне.

Раздражнены адмоўным адказам, зьбіў на сівы яблык сэкрэтара воласьці п. Казімерчыка, а пасьля зьняважыў заступніка войта п. Краскоўскага, прыказаў яго арыштаваць і адвясьці ў паліцыю, дзе ў прысутнасьці камэнданта паліцыі пабіў яго да крыві.

П. Краскоўскі, сын селяніна-гаспадара, быўшы студэнт права, зьвярнуўся з жалабай да Наваградзкага старасты, але пан староста парадзіў яму гэную справу уладзіць палюбоўна, і толькі дзякуючы энэргічнаму жаданьню п. Краскоўскага, сьпісаны быў пратакол.

У воласьці запанавала вялікае хваляваньне — сымпатыі да „улан“ значна астылі, бо перад гэтым былі выпадкі іхняй самаволі і бясправўя над мясцовай люднасьцю.

Прычына гэтага смутнага здарэньня ляжыць у тым, што паны афіцэры вядуць бясчыннае жыцьцё і шукаюць усюды бальшавізму.

(Robotnik № 226).

## Ня еду ў Кракаў.

Увесь час, як нас ад Сярэдняе Літвы прылучылі да Польскага калідору, мяне школьны інспэктар вельмі ўгаварвае ехаць ў Кракаў на іх курсы. І калі я згаджаюся, дык ён мне ад усяе Польшчы за гэта абяцае залатыя горы. Кажа, што на курсах я буду даставаць вялікую пэнсію і паёк, а таксама і дома сям'я мая ня будзе ў крыўдзе ад палякоў. А калі я скончу курсы, дык ён мне абяцае добрую вакансію, з якой я буду магчы шыкарна жыць. І навет гэтае „шыкарна“ ён мне пачынае паказаваць. Выдаў ужо прадукты, павялічыў пэнсію і называе мяне „сваім“. Дык не, паночку інспэктар дарма вы лічыце мяне за «свайго»! Ня думайце, калі ласкі, што я толькі па крыві беларус, але нічутачку не па ідэі, і за вашы абяцанкі магу адчурацца ўсяго бацькаўскага і зрабіцца паляком; а ніколі, дальбог ніколі! І падумайце самі, няўжо я, будучы сьвядомым чалавекам, пакажу ўсяму сьвету, што за якія-сь абяцанкі магу прадаць сваю нацыю; дальбог ніколі!

І навет, калі можна было-б хоць падумаць аб гэтым, дык і так сорам было-б перад усім сваім грамадзянствам, што я, як самы мацнейшы барацьбіт за сваю нацыянальнасьць і культуру на вёсцы, магу пакінуць сваё цёмную грамаду, над якою з даўных гадоў зьдзекуюцца чужынцы. Не, дальбог, ні за што не паеду ў Кракаў і не дапушчуся каб мяне, сьвядомага беларуса, куплялі за абяцанкі! Гэта можа зрабіць толькі той, ў каго няма найменшае частачкі сьвядомасьці беларускага грамадзяніна.

**Беларускі вучыцель.**

**САКОЛКА (Горадзеншчына).**

Нягледзячы на тое, што наш павет ужо фармальна прылучаны да Польшчы у сялян нашых істнуе глыбокае перакананьне, што яны не палякі. Ня толькі праваслаўныя, але й каталікі, маладыя

---

ток, под видом мягкой пуховой постели“... І далей: ...„призываю президіум к... порядку“...

Другая фігура ў стаўбунаватай шапцы з нейкае рыжае скуры—народны камісар унутраных справаў Рэзаускі, бачачы гэткі слабы толк у прамове Крывашэіна, прапануе Старшыне Зьезду: „Лишите его слова“... І пасьля агалашае: „Об'являю С'езд роспущенным, а президіум арестованным“...

Тады ўжо пачынаецца гэткі галас, што нічога разабраць не ўдаецца.

Адным з таварышоў Старшыні за сталом прэзыдыуму быў, „областник“ Вазіла.

Нягледзячы на тое, што Старшыня (Серада) яму не передаваў свае ролі, Вазіла хапаецца за званчык і сваім піскілвым голасам крычыць: „Об'являю заседаніе закрытым“...

Гэта выклікае страшэны гук протэсту ўсяго Зьезду і Серада абвяшчае, што пасяджэньне цягнецца далей. Вазіла ўдае, што ён нібыто абамлеў. Чуваць галасы: „вады, вады!“ Магчыма, што й сапраўды Вазіла аслабеў, але з якой прычыны?

Тым часам, трэцяя шэрая фігура з шашкаю пры баку і „наганам“ у руцэ праціскалася йдучы да прэзыдыуму праз густую масу сяброў Зьезду, гэтак сама, шэрых сялян, рабочых і салдатаў. Гэтым трэцім быў не народны камісар, а проста камандзер „Першага Рэвалюцыйнага палку імя Менскае Работніцкае й Салдацкае Рады“ Ремнёв, быўшы штабс-капітан (*голас з месца*: „прапаршчык, са мною ў адным полку служыў!“)

Уся шэрая маса дэлегатаў Зьезду шчыльна стулілася ў купу, паўстаўшы з сваіх крэслаў, не даючы Ремнёву магчымасьці прайсьці да Прэзыдыуму. Ремнёв паднімае ўгару „наган“, паціскае за цынгель, але рэвольвэр чамусьці не страляе.

Усё завалтузілася, загуло, як пчолы ў вульлі. Пачалася арыгінальная барацьба ўзброеных і безаружных шэрых фігураў паміж сабою. Некаторыя з сялян папрытуляліся ў кутках, але адважная іх большасьць зьмяшалася разам з рабоча-салдацкімі дэлегатамі і шчыльнаю сьцяною загароджвае „рэвалюцыйнаму палку“ дарогу да Прэзыдыуму.

Адзін селянін, стаўшы на крэсла, з каменным спакойствам шле праклёнствы збройцам, паказваючы ім свае мазольныя далоні. Яго не чапаюць. Дзе-хто з сялян з халопскай пакорнасьцю моляць і просяць, каб іх выпусьцілі, бо яны, быццам, ня ведаюць, што тут робіцца... І, апынуўшыся ўжо каля дзьвярэй, Крывашэін літасьціва пацягвае іх за рукавы: „Проходите... проходите“..

Прэзыдыум, такі, арыштоўваюць і выводзяць. Разьлягаецца дружны сьпеў „Марсэльезы“; ў кутку сьпяваюць марсэльезу беларускую: „Адвеку мы спалі“...

Загрымелі крэслалі, складаючы барыкады пасярод залі. Ў мінюту выбіраецца новы Прэзыдыум.

З аднаго боку барыкадаў новы прэзыдыум абвяшчае рэзалюцыю протэсту, а з другога боку Крывашэін, Ремнёв і Рэзаускі абмяркоўваюць свае стратэгічныя пляны.

Больш ніхто ўжо не пакідае сходу, ўсе цеснаю грамадаю стуліліся, слухаючы рэзалюцыю протэсту.

Нягледзячы на тое, што камісар Резаускі запрапанаваў „товарищам, стоящим на стороне советской власти“ пакінуць Зьезд, — яны, гэтыя таварышы-бальшавікі, найбольш протэстуюць. Сам народны камісар апекі (призренія) матрос Муха (беларус) тут-жа заяўляе, што ён нязгодзен з гэткім гвалтам і, дзеля гэтага, падаецца ў адстаўку. Слова сваё Муха датрымаў. Ён выйшаў са складу народных камісараў „Заходняй обласьці і фронту“.

Заява Мухі ня спыняе Крывашэіна і ён далей камандуе арыштаваць новы прэзыдыум Зьезду. „Полк“ Ремнёва разьбірае крэслы, абаронцы барыкадаў іх ізноў складаюць. Ізноў разьлягаюцца рэвалюцыйныя гімны... „Полк“ адходзіць назад да дзьвярэй... Кінуўшыся ўперад, Ремнёв ізноў вядзе яго ў атаку... Лезуць праз барыкады, хватаюць новы прэзыдыум, хватаюць, каго могуць, ды выпіхаюць у дзьверы...

Зразумеўшы, што далейшая барацьба дарэмная, Зьезд выходзіць, сьпяваючы „Жалобны марш“.

„Полк“ акружыў усіх і падпіхаў з-заду ў дзьверы.

На сходах стаялі па боках выстраіўшыся салдаты „рэвалюцыйнага палку“. Пры выхадзе з дзьвярэй на Падгорную вуліцу можна было бачыць чалавек дваццаць бальшавіцкай кавалерыі на белых конях і два панцырных самаходы.

Арыштованых павялі па Падгорнай вуліцы да Комэрцыйнага вучылішча, дзе зьмяшчаўся „Совет народных комиссаров“. Гэтае вучылішча беларусы называлі, жартуючы „Менскім Смольным Інстытутам“.

Большасьць дэлегатаў Зьезду пайшла за арыштованымі, сьпяваючы рэвалюцыйныя песьні.

Разгон адбыўся пасьля больш, як 3½ гадзін арыгінальнае бяскроўнае барацьбы.

Арганізованая воля беларускага народу бароцца за сваю лепшую будучыну была парушана, але ня зьнікла яна зусім.

Рада Зьезду ня ўся была арыштована і яе вольная частка пастанавіла сабраць Зьезд у той самы дзень 18 сьнежня (ст. ст.) для перадачы ёй,—Радзе Зьезду, — поўнамоцтваў на далейшую барацьбу за ідэалы беларускай дзяржаўнасьці.

Зьезд сабраўся, тайна ад бальшавікоў, у будынку чугуначнага дэпо і Рада Зьезду была упаважнена стварыць выканаўчы орган і забраць у патрэбны момэнт уладу ў свае рукі.

Гэтага момэнту прышлося чакаць ня надта доўга.

Рада Зьезду выбрала з ліку сваіх сяброў „Выканаўчы Камітэт“, на які ўпаў цэлы цяжар беларускае нацыянальна-дзяржаўнае справы.

Але аб працы Рады Зьезду і Выканаўчага Камітэту мы яшчэ пагаворым другім разам на тэму «Рада Беларускай Народнай Рэспублікі».

**Краўцоў Макар.**

(Канец).

хлопцы, служыўшыя ахвотнікамі ў польскім войску, цяпер страшэнна абураны, што ім не даюць абяцанай зямлі. Праўда, некаторым з іх былі запрапанованы надзелы ў Берасьцейскім павеце. Але калі хлопцы паехалі, паглядзелі на гэтыя голыя кускі зямлі — бяз усякай будовіны, дык адказалісь ад такога шчасьця і вярнуліся назад дамоў. Ім хацелася-б адтрымаць хоць невялічкі кавалачак зямлі але ў сябе. Яны жадаюць прырэзкі гэтага кавалка ад іх-жа суседзяў абшарнікаў.

Беларускіх школ цяпер у павеце саўсім няма. Назначаныя ў 1919 годзе горадзенскаю школьнаю радаю настаўнікі і настаўніцы польскай адміністрацыяй ня былі зацьведржаны і цяпер гэтыя няшчасныя пэдагогі недзе валандаюцца.

Цікава, што адна з тых настаўніц п. Зінавічанка нейкім цудам затрымалася у вёсцы Трасьцянах, дзе патаемна ад улады вучыла дзяцей пабеларуску. Сяляне самі дабравольна яе утрымовавалі; вельмі паважалі і любілі. Прыпадкова жандармэрыя даведалася аб гэтай школе. Настаўніца была з вёскі выгнана, а на яе месца прыслалі польскую вучыцельку.

Алесь.

## Значэньне курсаў.

### М.-ка ВАЛОЖЫНА.

Да курсаў, якія мінулым летам адбыліся ў Вільні, нашыя вучыцялі ведалі аб Беларусі вельмі мала. Беларускім рухам, культурай, прасьветай яны ня ўсе, як трэба цікавіліся. Дык сапраўды сьвядомых беларусаў ахапляла ад гэтага прыкрасьць. Пачаліся ў чэрвені месяцы курсы, паехалі на іх нашы вучыцялі, пабылі там 2 месяцы і мы моцна зьдзівіліся, як гэта грамадзянін Рак-Міхайлоўскі з усімі іншымі лектарамі надта добра усьвядомілі нашых вучыцялёў. У іх цяпер прачнулася сыноўнае пачуцьцё да свае Бацькаўшчыны: цікавяцца беларускім рухам, чытаюць беларускія кнігі, газэты. Нягледзячы на благія варункі жыцьця беларускай школы, вучыцялі ня трацяць нядзеі нарыхтаваць школы і дачакацца лепшых часаў.

Дзед Вавіла.

## Сьвядомасьць пашыраецца.

### М-ка ДАЎГІНАВА, Вялейск. пав.

Пачуцьцё беларускасьці ў нашым мястэчку моцнае нятолькі сярод каталікоў і праваслаўных, а навет і жыды разумеюць ясна, на якой зямлі яны жывуць. Нажаль, няма як залажыць тутака якуюнебудзь сувязь, каб усе элемэнты з'арганізаваліся; няма вось гэткіх людзей, каб аб гэтым парупіліся. Проста, здаецца, што ад вайны ў людзей розум неяк не на месцы. Хацелася-б паслаць дэлегата на беларускую нараду ў Чэхію, але-ж позна мы аб гэтым даведаліся дый зноў-жа не з'арганізаваліся.

Ёсьць у нас польскі вучыцель; рэмонтуюць школу, але шкада, што там, здаецца, пабеларуску вучыць ня будуць.

Даўгінавец.

### ПОШАСНАЯ ХВАРОБА.

У нас, ў Даўгінаве часта здыхае жывёла ад нейкай пошасьці, ці што. Часта страляюць скаціну, дабіваючы яе. Трэ'было-б неяк парупіцца, каб мястэчка не засталося бяз быдла.

В. С.

## Беларуская хроніка.

### Палажэньне Гімназіі.

Як мы даведаліся, дэпартамэнт асьветы Сярэдняй Літвы не згаджаецца на зацьвярджэньне істнуючай ужо чацьвёрты год і перафармованай улетку гэтага году Беларускай Гімназіі ў Вільні. Дэпартамэнт вымагае выкладаньня усіх навук у старшых клясах гімназіі (6—8) на польскай мове, тады як цяпер яны выкладаюцца на беларускай, за выключэньнем (часовым) матэматыкі. Чым выклікана такое вымаганьне, проста трудна сьцяміць.

Служачыя гімназіі, дзякуючы такому палажэньню, вот ужо скора два месяцы не адтрымліваюць пэнсіі, і калі ім яе выплацяць, няведама. А тымчасам марка падае, цэны растуць, і калі пэнсія будзе адтрымана, то кащтоўнасьць яе не па віне гімназіі акажацца ў два або ў тры разы меншай, чым у свой час.

### Ахвяра на „Бел. Звон".

Грамадзянін Крыўка ахвяраваў нашай часопісі 2000 польск. мк., за што Рэдакцыя шчыра яму дзякуе.

### НАШАЕ МАСТАЦТВА.

Беларускі Музыкальна-Драматычны Гурток разьвівае сваю дзейнасьць. Апроч заўсёднай трупы артыстаў і хору цяпер будзе выступаць яшчэ і струнны аркестар; для гэтага закуплены ўжо поўны комплект інструмэнтаў. Кіраўніцтва даручана дабраму мастаку. Аркестар гэты будзе адзіны ў Вільні па сваім тыпе і трэба спадзявацца, што публіка зацікавіцца ім.

### Адклад выезду ў Прагу корэспондэнта.

Корэспондэнт нашай часопісі грам. М. Косьцевіч ня мог выехаць у Прагу, ня маючы заграпічнага пашпарту. Як заявілі ў Гарадзкім Старасьцьве м. Вільні вырабіць пашпарт можна не карацей, як праз дзён 10.

### Паседжаньне Бел. Школьнае Рады.

У мінулую нядзелю а 10 гадз. раніцай адбылося паседжаньне Бел. Шк. Рады. Разглядалася справа пасылкі ў Чэскі Унівэрсытэт у Прагу студэнтаў-беларусаў на заснованыя там стыпэндыі. Вырашылася, што можна будзе, пакуль што, выслаць частку намечаных кандыдатаў.

### Беларускі тэатр на провінцыі.

Грам. Ф. Аляхновіч з'арганізаваў з мясцовых мастацкіх сіл драматычную трупу, з якой на будучым тыдні зьбіраецца ў аб'езд провінцыі. Прыгатоўлены гэткія п'есы: „Птушка шчасьця"— Аляхновіча, „Зьбянтэжаны Саўка"—Родзевіча, „Я памёр" (пераклад) і „На адным крэсьле" (перакл.).

## ТУТЭЙШАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

### Гарадзкая Электроўня й яе абонэнты.

Электрычны Аддзел паведамляе, што ўжываньне энэргіі на мэханічныя патрэбы (маторы) строга забаронена ад $6\frac{1}{2}$ гадз. ўвечары да 12 г. ўночы, за вынляткам друкарняў, у якіх друкуюцца газэты. Хто ня будзе трымацца гэтай забароны, дык будзе караны незабаўным выключэньнем бяз права новага ўлучаньня.

### Забастоўка ў тэатрах.

У Польскім і Повшэхным тэатрах у аўторак была абвешчана забастоўка тэхнічнага і службовага пэрсоналю. Патрэбавана падвышэньне дасюляшняе платы на 50%, так што, напр., машыністыя, што дастаюць цяпер 32.000 мк. на месяц, даставаць маюць 48.000. Справа выглядае так, што расходы тэатраў толькі на пэнсіі могуць павысіцца на некалькі мільёнаў марак у месяц. Гэта такі вялікі цяжар, што магчыма навет зачыненьне тэатраў.

### Яшчэ адна партыя.

«Jednaść» у 19 нумары за 21 г. м. падае гэткую досіць цікавую заметку:

«5 верасьня у Вільні адбылося арганізацыйнае сабраньне новай беларускай народнай партыі пад назваю «Sialibniki», якая прызнаючы польскую дзяржаўнасьць, ставіць сваей мэтай арганізаваньне беларускіх сялян, а разам з тым барацьбу за народныя і нацыянальныя правы беларускага народу».

Ці не старое толькі віно ды пераліваецца тут у новыя мяхі? І што за соцыяльная навіна гэтыя таямнічыя „сялібнікі" бяз іменьняў і без... праграмы!

### Вось дык рэлігійнасьць.

17—19 верасьня ў Вільні адбыўся зьезд так званых „тэрціярак" (жанчын, спаўняючых трэці закон сьв. Францішка для сьвецкіх людзей). Зьезд не абмежаваўся пытаньнямі веры, але заняўся і палітыкай. Сярод кіраўнікоў зьезду знайшліся агітатары за „ўцяленьне" (далучэньне) нашага краю да Польшчы. Падбіты нягоднымі асобамі, зьезд цёмных і фанатычных „тэрціярак" пастанавіў выгнаць беларусаў з Сьв.-Троіцкага манастыра, царкву адабраць на касьцёл, а ў мурох, дзе цяпер гімназія, зьмесьціць архіў. Адным словам, язык доўгі, а рукі кароткі!

### Яшчэ адзін «wiec» (мітынг).

23 верасьня ў Вільні адбыўся арганізаваны эндэкамі мытінг, які пасьля прамоваў, рушыў к'дварцу гэнэрала Жэлігоўскага з песьнямі „Ешчэ Польска не згінэла" і інш. Гэнэрал Жэлігоўскі ня вышаў. Замест яго, сабраных супакоіў Старшыня Тымчасовай Камісіі гэн. Макжэцкі, пасьля чаго мітынг разыйшоўся.

### Мясцовы нотарыят.

У тутэйшых нотарыюсаў пры Акружным Судзе заўсёды доўгая чарга кліентаў. Крыху вальней толькі ў нотарыюса Змачынскага, дзе можна найхутчэй заверыць копію, або ўладзіць якую-небудзь іншую дробную справу.

Не пашкодзіла-б для Вільні павялічэньне ліку нотарыюсаў, бо цяперашніх 4-х можа й замала на вялікае места й яго ваколіцы.

### Дарагоўля жыцьця.

Нехта Ver. ў мясцовай „Gazecie Wileńskiej" прабуе падлічыць колькі каштуе дзень пражыцьця ў Вільні. Бяручы за прыклад сям'ю з 4 асобаў (якіх ёсьць найбольш) грам. Ver аблічвае гэтак: сьнеданьне—хлеб 160 мк., цукер 30 мк., гарбата й апал 30 мк., агулам 220 мк., калі піць толькі гарбату і есьці сухі хлеб. Найтаньнейшы палудзень у рэстаране каштуе 800 мк., а з хлебам дык 900 мк, Вячэра з вандліны, хлеба і зноў гарбаты каштуе на 4 асобы найменей 300 мк. А разам, прост галоднае харчаваньне абходзіцца ў дзень 1500 мк. А дзе кватэра, сьвет, апал, дзе адзежа й іншыя рэчы? Ці-ж можна, паводлуг гэтага пражыць, маючы ў месяц 40, або 50.000 марак?— пытаецца аўтор.

### „Пацалунак Юды" на беларускай сцэне.

У мінулую нядзелю артыстамі Бел. Муз.-Драм. Гуртка на Біскупскай 12, была пастаўлена п'еса З. Белай «Пацалунак Юды». Рэцэнзія з прычын тэхнічных не магла быць зьмешчана ў гэтым нумары і будзе надрукована ў чародным.

## Паштовая скрынка.

**А. Смаленцу.** Шчырае дзякуй за прысланае; што магчыма зьмяшчаем.

## Віленская біржа.

За 28 верасьня 1921 г.

| | | |
|---|---|---|
| Даляры | 6830 | „ |
| Франкі | 430 | „ |
| Фунты штэрлінгаў | 23.000 | „ |
| Ост.-маркі (1000) | 57.50 | „ |
| Нямецк. маркі (100) | 60.15 | „ |
| 10 руб. золатам | 27200 | „ |
| 1 „ серабр. | — | „ |
| 1 „ дробнымі | — | „ |
| Царскія 500 р. (за 100 р.) | — | п. м. |
| „ 100 р. | — | „ |
| „ дробныя | — | „ |
| Думскія 1000 р. | — | „ |
| „ 250 р. | — | „ |
| Керэнкі | — | „ |

## Новыя кнігі.

**М. Гарэцкі. — „Гісторыя беларускае літэратуры"** (старадаўнае, новае і сучаснае). 208 стр., 33 рысункі, альбомная папера, цьвёрдая акладка. Цана 150 польскіх мар.

**Браты М. і Г. Гарэцкія — „Маскоўска-беларускі слоўнік"**, выданьне II, з папраўкамі і вялікімі дадаткамі, 144 стр., цана 75 польскіх марак.

**Антон Навіна — „Пуцяводныя ідэі беларускае літэратуры,** адбітка з „Нашае Думкі», цана 20 польскіх марак.

**А. Канчар — «Клясавае, нацыянальнае і рэлігійнае змаганьне на Беларусі»**, адбітка з «Нашае Думкі», цана 20 польскіх марак.

**Я. Лёсік—„Нашая крыніца"**, трэцяе чытаньне для беларускіх пачаткавых школ. 107 стр., цана 50 польскіх марак.

**Тэрміналёгія арытмэтыкі**, укладзеная Камісіяй Менскага Беларускага Пэдагогічнага Інстытуту. Цана 10 польскіх марак.

**Л. Гарэцкая. — „Родны Край"**— трэцяя і чацьвёртая пасьля лемантара кніжка да чытаньня. Цана 150 мар.

**Францішк Аляхновіч.—Заручыны Паўлінкі** пьеса ў 1 акце з песьнямі і скокамі. Цана 50 мар. п.

Апрача таго, перадрукаваны:

1. **Лемантар „Зорка"** ч. 1 А. Смоліч, цана 20 м.
2. **Беларуская Граматыка** Тарашкевіча, цана 22 м.
3. **Задачнік Юрэвіча** год I.

Прадаюцца ў «Беларускай Кнігарні», Вільня, Завальная 7.

### АБВЕСТКА.

З дазваленьня Міністэрства Веравызнаньня і Прасьветы Грамадзянская Прыватная Жаноцкая Гімназія ў Несьвіжы аднаўляе сваю дзеяльнасьць у 1921—22 вучэбным годзе.

Прадметы ў клясах 3, 4, 5, 6, 7 і 8 будуць выкладацца у расейскаи мове, у клясах 1 і 2 ў беларускай мове, ў клясах 1 і 2 у беларускай мове. Прыймовыя экзамены ва ўсе клясы і пераэкзаменоўкі пачнуцца з 26 верасьня.

Па заканчэньні экзаменаў пачнуцца клясныя заняткі.

Утрымацель Прыватнае Жаноцкае Гімназіі ў Несьвіжы У. Жаўнаркевіч. Дірэктар гімназіі К. Шчансновіч.



Грамадзяне, спаўняйце сваю павіннасьць, запісуйцеся ў „Т-ва Беларускае школы"!

Друкарня „Віленскага Выдавецтва" Б. Клецкіна, М.-Сьцяпанаўская, 23.

Рэдактар-Выдавец ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.